***Падвёў… аўтарытэт***

Прызначылі Піліпа
Брыгадзірам —
Няхай працуе ён
Упраўна, шчыра.

Ды ўсё часцей
(Пакуль без лішняй злосці)
Любіў Піліп
Цішком паразважаць:
«Я ж — брыгадзір,
А непрыкметны штосьці,
Ніхто мяне
Не хоча заўважаць.
Як буду кіраваць,
Стуліўшы плечы,
Не пакажу характар свой
Як след —
Нібыта на патэльні
Здор заечы,
Растане, згіне
Мой аўтарытэт…»

І вось Піліп узяўся за гужы:
Ледзь што — разгон!
І слова не скажы!

Узяўся брыгадзір
За ўсіх сур'ёзна,
Нутром кіпеў і слоў не шкадаваў
Даваў праборкі,
Грукаў,
Зіркаў злосна —
Аўтарытэт патрэбны здабываў.

Здзіўлялася брыгада:
— Што такое?
І сам, як той індык,
І нам няма спакою!
Здзіўлялася.
Пасля, відаць, прывыкла.
Ніхто Піліпа слухаць не хацеў:
Настрой працоўны ўпаў
І дысцыпліна знікла,
І вось,
Нібы камар той з матацыкла,
Ён з брыгадзірства гэткага
Зляцеў!

### *Вымова*

Не шкадаваў дырэктар «перцу» —
Разгон як след усім даваў!
Шэф-повар моршчыўся,
За сэрца
Хапаўся, быццам блазнаваў.

Над залай гулкай, апусцелай
Басок дырэктара грымеў.
...Адміністратарцы ўляцела,
Касірка тварам спалатнела
І кладаўшчык — як анямеў.

— А ці ж парадак на раздачы?
Народ стаіць па пяць гадзін!
І порцыі, сам гэта бачыў,
На камарыны ўкус адзін!

Я вас пытаю:
Дзе культура?
Дзе намінал, асартымент?
Цяпер кліент другой натуры,
Цяпер кліент —
Інтэлігент!

Якую мне адзначыць змену?
Каго хваліць?
Каго караць?
Куды я кнігу скаргаў дзену,
Як з трэста прыйдуць правяраць?

Павінен я,
як патрабуюць,
Рэагаваць —
Вымовы даць!
Хай на сябе усе крыўдуюць,
Хто спаць прывык,
Не хоча дбаць!..

І вось загадам па сталовай,
Каб меры бачны ўсім былі,
Далі ўсяго адну вымову —
Пасудамыйшчыцы далі.

Дырэктар ход свой,
Дзіўны, скрытны,
Прадумаў,
Знаў, як павярнуць:
— Ты ў нас работнік дэфіцытны,
Цябе не звольняць,
Не крануць.

### *З лёгкай парай!*

...Меў я месца на прыкмеце
У суседнім кабінеце —
Месца нама.

З гэтай мэтай
Пад абед
Я — да шэфа ў кабінет.
Завіхнуўся,
Нахінуўся,
Выдаў шэфу
Навіну ўсю:
— На базары зранку быў,
Цуда-венічак купіў.
Цупкі,
Гнуткі,
Шапаткі,
Бы прымочачкі, лісткі!
Я зайшоў, Гвідон Філатыч,
Вас у лазеньку сасватаць.
Пасля дзённай гаварыльні
Пачаруем у парыльні.
Ёсць сухі духмяны лешчык —
З Волгі аж «прыплыў» ад цешчы.

Шэф чарнявы вус пакратаў:
— Што ж, лічы, ужо сасватаў...

Чую:
Сэрцу пацяплела,
Лёгка стала,
Бо надзея ажыла,
Затрапятала...

*
Венік я як след распарыў,
Духу даў, ляжак захмарыў:
— Калі Ласка!

Я над ім, як маг, штукарыў,
Адсцябаў яго, адшпарыў:
— З лёгкай парай!

Пад ляшча і тары-бары
Частаваў піўком у бары:
— З лёгкай парай!

— З лёгкай парай!
З лёгкай парай!
З лёгкай парай! —
Павышэнне атрымаць я гэтак марыў.

А праводзіў да пад'езда —
Анекдоты
Баіў-сыпаў, хоць не меў
На іх ахвоты:
Анекдоты перад гэтым,
Як той злыдзень,
Я вывуджваў,
Я вывучваў
Цэлы тыдзень!

Пакарыць я думаў шэфа канчаткова:
Не даваў яму прамовіць нават слова,

Думка стукалася сэрцу ў лад нядрэмна:
«Быць не можа,
Каб дарэмна,
Каб дарэмна!..»

*

А праз тыдзень акурат
Шэф зайшоў:
— Рыхтуйся, брат...

Сэрца ёкнула ў мяне:
Знаю ўжо,
Куды ён гне.
Стол намесніка, відаць,
Давядзецца асядлаць?

Шэф жа нахінуўся,
Выдаў навіну ўсю:
— На базары зранку быў,
Цуда-венічак купіў.
Цупкі,
Гнуткі,
Шапаткі,
Бы прымочачкі, ліcткі!
Так што будзь, Рыгор Пятровіч,
Роўна ў шэсць напагатове —
Пасля дзённай гаварыльні
Пачаруем у парыльні.
Ёсць сухі духмяны лешчык —
З Камы аж «прыплыў» ад цешчы!

Чую:
Сэрца халадзее, халадзее,
Ды трапечацца, жыве у ім
Надзея!..

*

Венік шэф як след распарыў,
Духу даў, ляжак захмарыў:
— Калі ласка!

Нада мной, як маг, штукарыў,
Адсцябаў мяне, адшпарыў:
— З лёгкай парай!

Пад ляшча і тары-бары
Частаваў піўком у бары:
— З лёгкай парай!
— З лёгкай парай!
З лёгкай парай!
З лёгкай парай!..—
Не, пра гэта я і ў сне, браткі,
не марыў

Да пад'езда потым шэф мяне праводзіў,
То пад локаць браў,
То ўперад мне заходзіў.
Анекдоты
Баіў-сыпаў адмыслова,
А пра службу —
Месца нама —

Ані слова!

Што ж, падумаў я,
Чакай, чакай, Рыгорка,—
Гэта ж болей
Кабінетная гаворка!

А ў пад'ездзе шэф як быццам схамянуўся,
Адступіўся,
Мне загадкава ўсміхнуўся.
Усміхнуўся —
Дзеркачом агрэў нібыта:
— Ну, Пятровіч, мы з табой, выходзіць,
Квіты!..

Чую:
Сэрда схаладзела, схаладзела.
А надзея —
Паляцела, паляцела!

Узнялася нада мною
Шызай хмарай —
Улятучылася з марай
Лёгкай парай.

### ***Падласы***

Прынадною крамаю
«Рыба і мяса»,
Як вуліца помніць,
Загадваў Падласы.
Ды рыбай і мясам
Не пахла ў ёй часам.
Не пахла ў вітрыне,
А там, у «сакрэтку»,
Заўсёды вялося —
І ўзімку,
І ўлетку.
Відаць, толькі ведала
Крамная каса,
Як ён размяркоўваў
Са склада прыпасы.
За гэтым
І грэх яшчэ вёўся:
Падласы
За рыбу,
За мяса —
На ўзятку
Быў ласы!
Не мог дапусціць жа ён
Слабасці, «ляпу» —
Гандляр быў
Махлярскай натуры:
Ён браў без сумнення
І ў ляпу,
Іў лапу —
Хапала такой кліентуры.
З яго кабінета
Праз ход панадворны,

Не той, што пад шыльдай,
А той, што быў... «чорны»
З аглядкай ішлі
Па адным
І гурмою.
І пахла вяндлінай,
І пахла... турмою.

...Што сталася з крамаю
«Рыба і мяса»? —
Віруе чарга
Ля прылаўкаў,
Ля касы:
Ёсць рыба і мяса,
Да іх —
І каўбасы.
Няма аднаго:
Дзе ж падзеўся Падласы?

***Рэвізія налётная***

Раптоўная,
Грымотная —
Рэвізія налётная!

Загадчык склада Хведар Гляк
Даўно распух,
Наеў валляк:
Не дзень, не месяц —
Пяты год
Сядзіць на складзс
Без прыгод.
Пад рэвізорскі зірк і «прас»
Трапляў ён толькі ў сне падчас.
І тут —
Званок-гудок з канторы:
«Прыедуць заўтра кантралёры.
Праверка, хоць запозная,
Налётная ж, сур'ёзная!..»
«Дык што — адразу рукі сцяць,
Чакаць іх, покуль наляцяць?» —
І Хведар Гляк,
Хоць быў не рад,
Як крот, увесь аблазіў склад:
Усё ўлічыў,
Усё злічыў —
Адняў,
Прыплюсаваў,
Злаўчыў,
Канцы з канцамі
Звёў у зморы:
— Што ж, едзьце, едзьце, рэвізор

Дыхтоўная,
Турботная —
Рэвізія налётная!

Загадчык склада Хведар Гляк
Спярша на склад

Прынёс каньяк.
Пасля прыцёг
Закускі кош:
Паверым — за уласны кошт!
Прыбраў за скрынямі куток,
Паставіў пляшкі у радок.
Расклаў, як мог,
Закускі ўсе:
«Каго ж нячысцік прынясе?
Хто наляціць?
І колькі іх?
Ці ж хопіць гэтага на ўсіх?
Не хопіць —
Знойдзем, не бяды!
Калі ж падловяць —
Што тады?..»

...І вось пад'ехалі я н ы.
Адзін — сухі.
Другі — мажны.
Адзін — Краўцоў.
Другі — Званцоў.
Прычоскі, джынсы,
Бы ў юнцоў.
— З дарогі трохі адпачнём,
Сказаў мажны,—
Пасля пачнём.

І пачалі.
Мажны таварыш
Адразу ўзяўся за тавары ж
Звяраў прыход,
Астатак,
Збыт
І ўсё пытаў:
— Ёсць дэфіцыт?..

Сухі ж,—
Бы меў ён нюх ката,—
Бліжэй падаўся да кута,
Туды,
Дзе гаспадар гасцінны
Наладзіў стол
Каньячна-вінны...
Прынаду скмеціўшы, уміг
Пацёр далоні,
Бы застыг,
Гукнуў напарніку здаля:
— Давершым, можа, рэйд пасля?
Тым больш, паводле дакументаў,
Парадак тут на сто працэнтаў!..

Як знічка
Мімалётная —
Рэвізія налётная!

Загадчык склада Хведар Гляк
Палошча з раніцы гарляк,
Змывае пыл, які глытаў,
Калі на складзе клапатаў.

Гуркі хрумсцяць,
Гуркі рыпяць:
«Пр-райшла р-рэвізія на «пяць!..»
І ні Краўцоў,
І ні Званцоў,
Ніхто не змог знайсці канцоў:
Як быў рэвізіі працяг —
У іх дваілася ў вачах.
І гаспадар не моршчыў лоб:
Прайшла рэвізія... ў галоп.
Ой, будзь маланкамётная,
Рэвізія налётная!
Будзь блізкая натураю —
З самой пракуратураю!

***Дымок***

Далі дырэктару «накачку»,
І ён, забегшы ў кабінет,
Схапіў цыгарку —
Збіць гарачку,
Каб супакоіцца як след.
Не разглядзеў пасля прыпаркі —
Сваёй жа фабрыкі цыгаркі.

З-за іх яму
У глаўку ўзгрэлі —
Як мох сыры той,
Не гарэлі!

Паднёс запалку —
Толькі марна:
Цыгарку не ўпячы агнём,
Цыгарка быццам бы напхана
Вогнетрывалым тытунём!

Узяў другую з пачка ён —
Такая ж з'ява,
Той жа «плён»!

Цыгарку смокча
Шэф у злосці,—
Дымок ісці
Не хоча штосьці.

— Пакуль раскурыш —
Выцягне вантробы!
Ну і нядбайнікі ж!
Ах, бракаробы!
Няўжо не могуць
Выпускаць нармальных?
Пазбаўлю, шэльмы,
Прэміяльных!..

Ды раптам ён адчуў:
Паплыў дымок,
Расцёкся хмаркаю па кабінеце.
Дырэктар разлагодзіўся,
Прымоўк,
Настрой былы —

З дымком бы згінуў недзе.

— А могуць жа...—
Пагляд пачаў цяплець,—
А я... рублём
Не стукнуў іх ледзь-ледзь!

### ***Кур'ер-эканаміст***

А было ж, было ж калісьці
Не жыццё —
Службовы рай:
Мне пагрэбна ў краму выйсці —
Не пытаюся.
— Гуд бай!

Стол пустуе?
Ну і што!
Як іду —
Заказаў сто!

У бухгалтаркі заказ
Той жа самы
Кожны раз:
— У аптэку напачатку
Зазірні, купі трайчатку.
Як рахункі я звяраю —
Без трайчаткі паміраю...

А ў загадчыцы заўжды
Не адна,
А тры бяды:
Муж бурчыць: «Няма насоўкі...»
Сын крычыць: «Хачу красоўкі...»
А дачка: «Мне штроксы трэба..
Хоць падскоч,
Дастань іх з неба!
Можа, ўбачыш,
То чаргу
Мне займі —
Я падбягу...

І астатнія гурбой
Пра сваё —
Наперабой:
— Забяжы ў сталоўку нашу,
Папытай свінога фаршу...

— Я змарнела без «Арбіты»,
Будзе —
Цэлы блок вазьмі ты...

— У кнігарню завітай:
Быў прывоз ці не — спытай...

Покуль крамы абыду,
Распытаю ўсё,
Знайду
Для сябе і для аддзела —

Дык паўдня і праляцела!

Даспадобы мне такое:
Не зладіць мяне ў пакоі,
Не глытаю пыл з папер,—
Я ў аддзеле,
Як кур'ер.

Рада я,
І рады ўсе,
Кожны мне руку трасе:
— Малайчына!
— Дзякуй, Клаўка!

...Ды, як гром,—
Праверка з глаўка!
Раскапалі ўсё дачыста,
Мне пытанне задалі:
— На кур'ер-эканаміста
Дзе вучыліся?
Калі?

Дзіўна ім,
І я ў здзіўленні.
Ды чаго здзіўляцца шмат?..
І, як вынік,—
Заключэнне:
«Ёсць у штаце парушэнне,
Перагледзець трэба штат...»

А было ж...
Дзянькі насталі —
Мне няўцям,
І ўсім няўцям:
Быццам бегаць мы прысталі,
Быццам клопаты адпалі,
Быццам стала меней крам?..

Не пазнаць аддзел зусім —
Ёсць работа,
Ёсць усім!

***Пляшнікі***

Зноў хараством
Мясцін сваіх
Сустрэла нас прырода.
Што ж прывяло
На Вячу іх?
Якая ў іх нагода?

Бітком
Набіты рукзакі —
Кішэні ўсе,
Загашнікі.
Над плёскат хвалі
Шапаткі
Гудуць на пляжы
Пляшнікі.

— Хто будзе ў нас за тамаду?
— Хто першы тост нам скажа?
— Хто першым дасць нырца ў ваду?
— Хто не засне, не зляжа?

Скубуць зубамі
Шашлыкі,
Зірнеш — бярэ дрыготка...
Як чарку выпусціць з рукі? —
Яшчэ засмягне
Глотка!

— Куляй да дна! —
Чуваць адно.
Смяюцца пераможна...
З такой адвагай —
І на дно
Схавацца,
Булькнуць можна!..

Як вытрас нехта
Рукзакі —
Кішэні ўсе,
Загашнікі.
Пад плёскат хвалі
Шапаткі
На пляжы дрэмлюць
Пляшнікі.

За чаркай
Спіны, жываты,
Як той шашлык,
Падсмажылі:
Былі ж на пляжы,
Ля вады,
Дзе выхадны свой...
Спляжылі!

### ***Імяніны***

У Яніны імяніны —
Тата з мамай радзяцца.
Паўналеццейка ў Яніны —
Урачыстасць ладзіцца,
Бо дачушка ў іх адна...
Дом запоўніла радня.

Перашэпт ідзе, варункі:
— Што ў гасцей за падарункі?

І, нарэшце, час настаў:
Хто, што меў,
На свет дастаў.
Тата з мамай,
Як вядзецца,
Падарылі ёй ад сэрца,
Быццам дзве расінкі-знічкі,
Залатыя завушнічкі
І пярсцёнак,
Што з брыльянтам,

Падарылі мама з татам:
— Будзь шчасліваю, дачушка,
У жыццё ляці, як птушка!

А бабуля і дзядуля
Ашчадкніжку працягнулі:
— З нашых пенсій, што маглі,
Трохі ўнучцы зберaглі...
Каб ішло ў цябе, дзіцятка,
У жыцці ўсё роўна, гладка!

З цёплых ручак
Цёткі Зіны
Мякка споўз
Каўнер лісіны:
— Я скажу табе, як блізкай,—
Будзь прыгожаю,
Будзь... ліскай!
(І не дзіўна: цётка Зіна
Чорта ўхопіць з магазіна!
Праўда, ёй няцяжка гэта —
З гандлем звязана кабета).

Кофтачку з вярблюджай поўсці
Падарыў ёй дзядзька Косця:
— Помні нашу цеплыню,
Помні нашу дабрыню!
(Я ж дадам да гэтай фразы:
Дзядзька быў загадчык базы).

Шмат чаго радня нанесла —
Стала зразу ў шафах цесна!

Як вясёлка, Яня ззяе —
Стала ўмомант залатая!

Толькі лепшая сяброўка
Адчувала:
Ёй нялоўка.
Пасля ўсіх,
Счакаўшы крышку,
Падала Яніне...
Кніжку:
— Мары, шчырага кахання,
Я табе жадаю, Яня!

Цётка Зіна як зірнула,—
Ледзь язык
Не праглынула!

Матлянула рыжай стрыжкай,
Як капа, бязладнаю:
— Фі, здзівіць хацела кніжкай,
Кніжка ж —
Не ашчадная!

***Канец фільма***

*З В. Юхімовіча*

Гаравы Апалінарый
Напісаў кінасцэнарый.
З ім не бегаў туды-сюды,
А падаў адной са студый.
Трапіў твор яго да «хросных» —
Кіназнаўцаў, суддзяў розных.
Разглядалі «прынцыпова»,
Разглядалі дэталёва.
Што ні думка ў іх, то вырак:
Кожны — майстар падкавырак.

Аўтар бледны: «Што ўжо будзе?
Хіба ж можна гэтак, людзі?
Стаў мой твор —
На ране рана
Па дарозе да экрана!..»

Сем разоў Апалінарый
Падрабляў кінасцэнарый.
І... чым болей варыянтаў —
Больш заўваг у кансультантаў.

Першы з іх —
Знайшоў прычыну —
Зганіў Ганьку, зух-дзяўчыну:
«Бабку б зняць... Няхай на плёнцы
Будзе ў джынсах і ў дублёнцы...
Выйдзе фільмік найсучасным
Аб жыцці-быцці калгасным!..»

А другі: «Брат, не гадзіцца:
Лепей — Гандзя-маладзіца!..»
Трэці — супраць Гандзі й бабкі,
Ролі іх ён звёў да крапкі:
«Петруся б увесці, дзеда,
Што мудрэй за Архімеда...—
І параіў Гаравому
Твор ізноў забраць дадому.—
Перагледзьце, перакройце,
І, лічу, сцэнарый пройдзе...»

Яшчэ раз Апалінарый
Крэмзаў, латаў свой сцэнарый.
Зноў аднёс... Чакае візы...
Стаў ад розных думак лысы.

Год мінуў, другі — дарма,
Кінафільма ўсё няма:
Пастаноўшчык Гаравому
Твор парэзаў па-жывому.

Аўтар стогне, ледзь не плача:
«Кадрык хоць адзін ці ўбачу?
Хворы я ўжо літаральна
І хранічна й хранікальна...»

Не сустрэліся нябогі —

Разышліся іх дарогі:
На экран — кінасцэнарый,
На той свет — Апалінарый…
Ці замружыў, бедны, вочы?
Не, свой фільм пабачыць хоча.

# *КАСІЎ ЯСЬ КАНЮШЫНУ…*

***Модніца***

Бабуля Наста,
Дзед Тарас
Цвітуць, хоць пазайздросць ім:
— Унучка, гляньце-тка, да нас
Наведалася ў госці!
Бабуля ўнучку ў дом вядзе,
Трымаючы за ручку.
Блінкоў пад'еўшы,
Неўспадзеў
Бабулі кажа ўнучка:
— Ты, бабка, крыку не рабі,
Бо я даўно з пялёнак,
Ты завушнічкі мне купі
І залаты пярсцёнак.
Ты ж грошай, думаю, збярэш?
Стаць моднай —
Ох як рупіць!
Хутчэй купі,
Бо, як памрэш,—
Хто ж мне тады іх купіць?

Бабуля Наста,
Дзед Тарас
Няўцямна паглядаюць:
Што ёй сказаць на першы раз? —
Не ведаюць,
Не знаюць.

Унучку дзед у сад вядзе,
Трымаючы за ручку.
Сарваўшы яблык,
Неўспадзеў
Дзядулю кажа ўнучка:
— Ты ж, дзедка, добры, не скупы?
Каб я была, дзед, рада,—
Мне залаты кулон купі,
Яшчэ купі памаду.
Ты ж грошай, думаю, збярэш?
Стаць моднай —
Ох як рупіць!
Хутчэй купі,
Бо, як памрэш,—
Хто ж мне тады іх купіць?

Бабуля Наста,
Дзед Тарас
Маўчаць, нібы знямелі:
Што ёй сказаць на гэты раз? —
І клопат жа займелі!

...Шкада падчас бабуль, дзядоў,
Шкада, прызнаем шчыра...
А колькі модніцы гадоў?
Я адкажу:
Чатыры!

І ўсё наперадзе яшчэ —
З надзеямі, з гадамі.

А вось па кім дзіця расце
Падумайце ўжо самі.

### *Алергія*

...На сходзе гэтым засядалі
Даўжэй,
Гадзін мо да сямі.
На вёску ехаць спіс складалі,—
Хто маладзейшы,
Без сям'і.

Калгас падшэфны дапамогі
У іх прасіў,
Трывогу біў:
Дажджы над вёскаю аблогай,
Пракосы лівень затапіў!

Патрэбна ехаць —
Кожны згодзен.
— Хоць ад папер перадыхнём.
— У сельскі клуб на танцы сходзім.
— І сырадойчыку пап'ём...

І толькі Жане ўсё няміла,
Настрой упаў,
Настрой раскіс.
Праforgу раптам заявіла:
— Мяне не ўносьце ў гэты спіс.

Я не паеду...
Хай другія...
Хіба ж змагу я працаваць? —
У мяне ад пылу алергія,
А сена ж пыльнае, відаць?

— О, не бядуй, дзяўчынка, досыць! —
Праforг вясёлы стаў зусім.—
Ты ж чула: мокрым сена косяць,
Адкуль жа будзе
Пыл у ім?..

### *Пляткаркі*

*З А. Жалдака*

— Я чула, новую табе
Далі нядаўна хату?

— На новым месцы не ў журбе,
Жыву я ніштавата.
Кватэра — цуд:
Прастору шмат,
Спакой і ўноч і рана,
І вокны на зялёны сад,
Ды ёсць адна загана:
Пляткарка Феська —
Чорт наслаў! —
Суседзіцца са мною.
Што б ні падумаў,

Ні сказаў,—
Пачуе за сцяною!
Ці я на мужа псіхану,
Ці ён мяне палае,
Хоць стаў падвойную сцяну,—
Усё, вужака, знае!
Калі ж учора малатком
Карціну прыбівала,
Дык ледзьве ведзьме той цвіком
У вуха не папала!
Як жыць далей?
І што рашыць? —
Хапае крыку-енку!..

— А можа б, кумка, заглушыць
Кілімам тую сценку?

— Ды я ўжо думала, кума,
Але перабядую:
Ты ж знаеш, я тады сама
Нічога не пачую.

### ***Падвёў***

*З А. Жалдаха*

Улучыўшы зручны момант,
Востры, мабыць, на язык,
Пасля выдачы дыплома
Вёў гаворку выпускнік.
Ён казаў дэкану басам:
— Гляньце, як бывае часам...
Нас вучылі вы ад сэрца,
Сіл нямала аддалі,
А выходзіць,
А здаецца —
Вы мяне ўсё ж падвялі!
— Гэта нейкая загадка,
Я не ўцямлю аніяк:
Паяснілі б, можа, братка,
Дзе я вас падвёў і як?!
— Ці ж не вы казалі самі
На занятках дзень пры дні,
Што далёка з траякамі
Не заеду я ані?І.
І выходзіць, што спачатку
Вы адно казалі мне,
А цяпер вось на Камчатку
Пасылаеце мяне.

### ***Магарыч***

Парсючка дзяньком суботнім
Ціт на рынку прадаваў.
— Колькі просіш?
— Ды паўсотні.
— Мнагавата... Трошкі збаў...

Ціт купца акінуў вокам:

— Не магу, браток, збаўляць.
На гарбе цягнуў здалёку...
— Ну, аддай за сорак пяць.
Я дык дужа б не ўпіраўся:
Дзікі ён —
Паўсажня лыч...
— Добра,— Ціт нарэшце здаўся,-
Сорак пяць... І — магарыч.

— Магарыч? Сказаў талкова!
На бутэльцы — я і ты!
...Зацягнулася размова
У чайной да цемнаты.
Не чакаў,
Жывот падцяўшы,
Пад сталом лычасты шкет:
Торбу ўшчэнт пашкуматаўшы,
Дзірку выгрыз неўпрыкмет.
З торбы выбраўся без піску,
Згрыз скарынку, кашлянуў,
З-пад сталоў,
З-пад крэслаў нізкіх
Шась —
І ў кухню прашмыгнуў!

Мужыкі ж,
Знаёмства дзеля,
За сталом
Яшчэ гудзелі.
Цяжкім стаў язык памалу.
Што паробіш з языком?
Раптам выскачыў на залу
Повар з доўгім чарпаком.

Замахнуўшыся ўладарна,
Загрымеў чайханскі бог:
— Хто ў чайной развёў свінарнік?
Хто свінчо сюды прыцёг?

Долу глянулі мужчыны —-
Не, мяшок ля ног,
пры іх!
П'яна лыпнуўшы вачыма,
Дружна выгукнулі ўслых:
— Што крычыш, як прыганяты?
— Што равеш, як той асёл?
— Чыйсь парсюк, рабы, цыбаты,
Чабултыхнуўся ў кацёл!..

***Касіў Ясь канюшыну***

*Старая песня на новы лад*

Касіў Ясь канюшыну,
Паглядаў на дзяўчыну.

А дзяўчына загарала
Ды на Яся пазірала.

— Ці ты Ясь, ці ты не?
Спадабаўся ты мне.

Кінуў Яська касіць,
Стаў ён мамку прасіць:

— Чуеш, мамка, ці не?
Ажані ж ты мяне.

Усе хлопцы жонак маюць
І на «Ладах» раз'язджаюць.

Каб я «Ладачку» меў,
Дык не піў бы, не еў!

— Дык бяры ж ты Станіславу,
Працавітую на славу!

— Станіславу не люблю,
«Лады» там не адхаплю!

— Дык бяры ж тады Яніну —
Будзеш мець усё ў хвіліну!
Узяў!

Касіў Ясь канюшыну,
Паглядаў на... машыну.

***Нясуха***

Кош з яйкамі, поўны,
Вазок той нібыта,
На рынак прывёз
У нядзелю. Мікіта.
Расклаў ён тавар —
І купляй, і дзівіся!
Ды раптам кума —
Шась, адкуль ні вазьміся!
— Дзень добры, кумок! —
Як заўжды прывітала.
Убачыўшы з яйкамі кош, запытала:
— Напэўна, з паўгода збіралі, не елі
— Ды не, толькі тыдзень.
З мінулай нядзелі.
— То ў вас, як гляджу я,
Нясушак багата?..
— Адна толькі,
Яек жа — поўная хата!
І кум усміхнуўся.
Кума ж: — О-ё-ёй!
Кабета ў здзіўленні,
Не верыцца ёй:
— Адна усяго?
— Адна, кумка, адна.
— Цікава, па колькі ж нясе іх яна?
— Скажу табе шчыра,
Як роднай сястры,—
Дзесятак уранку

І вечарам тры...
— А што ў вас за курка?
Напэўна, цацарка?
— Якая цацарка там?!
Жонка, Адарка!
Яна ў мяне ўпраўная,
Знаюць усе:
Ідзе з птушкафермы —
Заўсёды нясе!

### ***«Ператрэніраваўся»***

Антось на службе
Пуп не рваў.
Каб не нажыць
Нуды-задышкі,
Ён сэрца ўзмоцнена
Трэніраваў,
Нагрузку кожны дзень даваў —
Віно глушыў
Без перадышкі.
Заўчасна
Згорбіла віно,
Як хто скалу ўзваліў
На плечы.
І —
З працы выгналі даўно.
А сэрца?
У грудзях яно
Трапечацца,
Як хвост авечы.
Не можа спаць
Антось да дня.
Прагорк язык
Ад валідолу.
«І дзе я лішняе падняў?..» —
Ён штоначы
Ламае голаў.

### ***Піла***

*Жарт*

Аўтобус поўны,
Як на злом,—
Дахаты едзе рынак!
Не павярнуцца з-за вузлоў,
З-за кошыкаў і скрынак.

Шафёр,
Заўзяты жартаўнік,
І той замоўк,
І той панік.

Глядзіць у тлумны перадок,
Настрой —
Далёка дзесьці.
Падбег дзядок:
— Скажы, браток,

З пілой мне можна сесці?
— А ў чым піла?
Яна не ўтне
Нікога, чалавеча?
Калі не так,
А ў палатне,—
Дык едзь,
Я не пярэчу...

А дзед адвёў
Убок руку,
З хітрынкай пазірае:
— Яна ў мяне...
у кажушку,—
Залазь хутчэй,
Старая!

***Кумава катанне***

*З П. Рабра*

З базару, з горада аднойчы вёз Пахом
На матацыкле кумачку Параску.
Ён сам сядзеў паважна за рулём,
Куме ж сказаў:
— Сядай, кума, ў каляску.

Пракоцімся, ды з вецярочкам, знай,
Ты гэтак не каталася ні разу!
А калі што, дык ты мяне гукай,—
Парадзіў кум і даў, як кажуць, газу!

Раве шалёна, дрынкае, вішчыць,
Мчыць драндулет разгоністым праспектам.
Аж зірк — Пахому штось кума крычыць,
А ён:
— Чакай, стаіць аўтаінспектар!

От выехаў за горад матацыкл.
Сказаць Параска нешта куму хоча,
А ён махнуў рукою:
— Кумка, цыц,
Дай светафор спакойна я праскочу!

Праскочылі... Палі ад краю ў край,
Як птушка, матацыкл ляціць, імчыцца!
Кума крычыць, а кум ёй:
— Пачакай,
Чыгунка блізка ўжо, не запыніцца б!

Праехалі... Імчацца ўжо сялом,
За матацыклам — пыл і градам гравій.
Кума штосьрэпетуе, а Пахом:
— Ты патрывай, дзесь тут масток дзіравы!

Ізноў разлёгся стэп ад краю ў край,
Кума за крыссе шарпае Пахома.
Пахом жа суцяшае:
— Патрывай,

Тут блізка ўжо, усё раскажаш дома.

Ля хаты, бледная, нібыта палатно,
Параска — гэп!
І на пляцень аблегла:
— Мы... мы... згубілі... ад каляскі, дно,
І я аж з горада... самога... бегла...

***Дзяльба***

Жылі ў Пераброддзі Іван і Даніла
Чужымі былі.
Ды адно іх радніла:
Калісьці за жонак сясцёр узялі —
Зяцямі старой Сцепаніды былі.

Сама ж Сцепаніда —
Руплівыя рукі —
Жыла ў сваёй хаце,
А з ёю — і ўнукі.

Як стала нядужаць,
Здароўем здала —
Кабета
і хату і двор
прадала.
Да меншай дачкі
Перабралася маці.
А значыць у дом
Да Івана, да зяця...

Сустрэліся неяк зяці
каля крамы,
Раскінулі дружна
Узятыя грамы.
І кажа Даніла —
Ён быў гаваркі:
— Не знаў я, Іван,
Што ты хітры такі!
Сумленне,
як бачу,
Цябе не скубе:
І цешчу, і грошы —
Усё, брат, сабе!
Забраў, падзяліцца ж —
Забыўся як быццам?
Чаму б нам з табою
Не падзяліцца?

Я згодзен:
Ты цешчу ў сябе пакідай,
А мне хоць бы грошы,
Хоць іх мне аддай!

***Трывога***

Бывае ж такое,
Бывае падчас...

Кантора ўся шэпчацца хорам:
— Вы чулі? —
Здарэнне у нас!
— Вы чулі? —
Няшчасце з Рыгорам!

— А што за прыгода?
— Якое з ім гора?
— Вытворчая траўма ў Рыгора!

Да шэфа дайшло.
— Гэта што, нагавор?
Ці жартачкі гзтыя чуткі?
Сам бачыў учора:
Таварыш Рыгор
Вясёлы,
            зусім здаравюткі!
Такі анекдот расказаў,
Што ў аддзеле
Ад смеху
Нібы на іголках сядзелі!

І як ён у нас пакалечыцца мог —
Не бачыў я гэткіх няўдаліц!
— Ды проста:
Нарэшце на працу налёг —
І стукнуў…
Палец аб палец!

***Прынцыповасць***

Сам дырэктар,
Папрасіўшы слова,
Старшыню прафкома ратаваў
— Ён у нас
Таварыш прынцыповы,
Як і ўсе мы,
Шчыра працаваў.

Чую: бюракрат…
Ці не завельмі?
Да чужых заяў глухі?
Але
І сваю ж заяву…
На звальненне
Ён трымае год ужо
У стале.

***«Няўдалы» канцэрт***

— Чуў я: быў ты
На канцэрце ўчора.
Ну і як ён,
Хораша прайшоў?
— Не, няважна,
Не канцэрт, а змора,
Для душы
Нічога не знайшоў.

Гэткі вэрхал
Не сціхаў у зале,—
Думаў, люстры
Долу загрымяць:
Пяць разоў
Артыстаў прымушалі
Кожны нумар
Двойчы паўтараць!

### ***Глухая цяцера***

Глухая цяцера
У госці паляцела.
Уважліва слухала
За сталом гамонку,
Наставіўшы вуха,
Схіліўшы галоўку.
Падчас прамаўляла
То слоўца, то другое.
А каб пачуць,
Трымала вышэй крыло тугое...
Глухая цяцера
З гасцей прыляцела
І прагугнякала цецеруку:
— Бацян нячысты на руку.
Саве памеўся навучыць
Ад слепаты сыча лячыць.
Сава чакае,
Час ідзе,
А ён і дзюбай не вядзе.
— А я такое ўчора чуў:
Памог бацян сычу.
— А саракуш, а саракуш
Дзярэ заўсёды добры куш.
Таго хацеў ці не хацеў,
Ды ўсё ж, аднак, разбагацеў:
Гняздо не звіў,
Гняздо купіў,
Бо браў з усіх,
З усіх лупіў.
Зноў цецярук аж спахмурнеў:
— Ці ты — таго...
Ці я здурнеў?!
Хоць слаба, але ж чуў ад сойкі
Ён сапраўды на гандаль бойкі,
Ды ўсё ж ні ў чым,
Ды ўсё ж нідзе
Ён на махлярства не ідзе.
А пра сароку чуў?
— Цяцера,
Ты б лепш у госці не ляцела!..

### ***Масток***

Я хадзіла па мастку,
Я зрывала на лістку,
Цёпламу,
Вясноваму,

Ліпкаму,
Кляноваму.
Прынясу іх ранічкай,
Пакажу іх Яначку,
Ён лісткі рукой кране —
І прыліпне да мяне!
Я хадзіла па мастку,
Я зрывала па лістку,
Па лістку
Зялёнаму,
З сонцам
Заручонаму.
Іх звяжу я,
Не згублю.
Любы скажа мне:
— Люблю!
Мне прашэпча, як лісток:
— Можа, выйдзем за масток?
Я хадзіла па мастку,
Я зрывала па лістку,
Шапаткому,
Роснаму,
Як бурштын,
Дзівоснаму,
Бо вясёлкавай дугой
Завяціўся мосцік мой —
Над вяселлейкам,
Над шчасцем,
Дзе лістком ляцець —
Не ўпасці!
Восень завіхаецца,
Мне ж вясна ўсміхаецца!
Я хадзіла па мастку,
Я зрывала па лістку.
Назбірала
Два букеты —
Для дачушак
Тані,
Светы.
А як трэці я збяру,—
Янку сына падару!..
Я хадзіла па мастку...

## ***Новая пара — дзед і Тамара***

*З М. Дзмітрыева*

Падышла да загса пара —
Дзед Мяфодзій і Тамара.
Дзед сагнуўся ў тры дугі,
А малодка: «Гі-гі-гі!»
Ля стала, у цэнтры зала,
Сакратарка ім сказала:
— Не магу я распісаць,
Трэба месяц пачакаць...
Твар змяніўся у Тамары,
Пабялела — не пазнаць:
— Гэта ж горш нябеснай кары,—
Месяц нудзіцца, чакаць!..

Праўда, мне чакаць — не ноша.
Але ж гляньце па Мяфошу:
Ён жа добра глухаваты,
Да таго ж і стараваты,
Ён за месяц, мая люба,
Бачыш, можа ўрэзаць дуба!
А загнецца —
Мігам страчу
Ашчадкніжку, «Волгу», дачу!..
— Не хвалюйся: твой Мяфод
Пражыве яшчэ сто год.
Знаю гэта, бо не раз
Дзед бываў у загсе ў нас.
Жонак трох ці чатырох
Перажыць старэча змог.
Ты ўжо, мусіць, пятай будзеш...
Так што,—
Бачаць гэта людзі,—
Невядома, мая люба,
Хто хутчэй урэжа дуба!

***Закаханы ляснік***

Рэха заблудзілася,
Бор прымоўк зусім.
Што са мной зрабілася,
З сэрцайкам маім?
Не магу спакойна я
Па бары блукаць.
Сосны —
Бы канвойныя,
Думак не схаваць:
«Ці ж згубіў сцяжыну —
Збегла ў верасок?
Ці ж забыў дзяўчыну —
Звонкі галасок?»
На крутым пагорачку
Пад сасной стаю:
Можа, ўбачу зорачку —
Любую сваю?
Я тапчуся сцежкамі,
Рэха не чутно.
Ад яе усмешкі мне
Лесу не відно.
Бор, прашу сур'ёзна я,
Скруху прагані:
Парадніў ты з соснамі —
З любай параднi.

***Поспех***

— Скажы, чаму ты
Гэтакі няўклюда?
Скажы, чаму ты
Гэтакі маруда?
Працуеш —
Быццам мокрае гарыць!
Хоць што ты ўмееш

Хуценька рабіць?
— А як жа, як жа!
Гэта кожны знае,—
Я вельмі хутка...
Засынаю.

## ***У тралейбусе***

*З А. Жалдака*

Дзяўчынка ў тралейбусе з лаўкі ўстае.
— Сядайце...— І месца бабулі дае.
Зірнула бабуля,
Махнула рукой.
— Сядзі,— адказала прыветна малой.—
Сядзі, бо як будзеш старэнькай, як я,
Яшчэ настаішся, галубка мая...

## ***Буслiная трывога***

Усё радзей, радзей уранку
Чуцён іх клёкат на двары.
Пусцеюць цёплыя буслянкі.
Дзе ж птахі —
Гнёзд гаспадары?
Няўжо крыўдуюць, дакараюць
За «моду» нас,
Бо ўсё радзей
Цяпер ім штосьці даваяраюць
Насіць дзяцей —
Малых дзяцей?
Ці дзе за морам з іх каторы
Паспеў куток аблюбаваць?
...Ды не: каля сваёй канторы
Яны пакутліва стаяць,
Чарга —
Ад зморы можна ўпасці!
З надзеяй
Зіркаюць здаля:
Каму ўсміхнецца раптам
Шчасце —
У дом прынесці
Немаўля?..
Іх шолах, ціхі пераклёкат
Па ўсёй чарзе —
Шнурку даўгім:
Куды?
Ці блізка, ці далека
Збірацца ў рэйс чарговы ім?
Раздасца кволы крык малога —
І ўміг зацепліцца пагляд.
Ды ўсё ж расце,
Расце трывога:
«Няўжо нас больш, чым немаўлят?
Нас лішні клопат не прытоміць.
Цяжэй вось так
Чакаць, марнець...
Няўжо калыску ў кожным доме

Няўтульна мець,
Турботна мець?..
Чакайце ж іх,
Дачку ці сына,
Знаходзьце ж, як і ў даўніну,
А нам іх з лёту
У комін скінуць —
Не ў навіну,
Не ў навіну!..»

### *Баязлівы воўк*

Воўк яшчэ ў абед адчуў:
Голад,
Ён — не цётка.
Стаў —
Баранчыкі ўваччу
Скачуць мройна, вёртка.
«Дзе б крыху перакусіць?
На лужок падацца? —
Там ягнятка «папрасіць»
Можна, калі ўдасца...»
Лазнячком пабег,
Лаза
Па спіне сцябае.
Раптам ён замёр —
Каза
Лісце абскубае!
Пэўна, збегла ў хмыз яна —
Ёй маркотна ў статку.
Зараз пасвіцца адна –
Гаркаты ў дастатку.
Есць лісцё,
Бы ў навіну,
Пазайздросціць можна...
Нават воўк лісток скубнуў,
Праўда, асцярожна.
Вочы блiснулі жудой,
Бы ў часы крутыя...
Але ўспомніў:
Час не той,
Козы ўжо не тыя.
Іх з казою-дзеразой
Не зраўняеш болей.
З гэтай,
З сённяшняй казой,
Лепей не сваволіць.
«Прэч,
рагатая,
з вачэй! —
Злосна шчоўкнуў шэры.—
Лепш па бегаю яшчэ
Улегцы,
без вячэры...»
Воўк скрывіўся —
І ў лазу
Шаснуў бегам звыклым:
«Зачапі цяпер казу —
Сам жа страціш іклы...»

## *Не паспеў пазнаёміцца...*

Падаўшы на стол,
За вячэрай
Надумала Мар'я гамонку:
— Наш новы сусед,
Той, што з пятай кватэры,
Так любіць,
Так любіць
Ён жонку!
Глядзяць тэлевізар —
Ён жонку мілуе.
Ідзе на работу —
Заўсёды цалуе.
Цвіце маладзіца,
Бо ён не баіцца
Ні ўсмешак-насмешак,
Ні ўроку-суроку,—
Зайздроснага вока людскога!
Чаму ты ніколі
Не робіш такога?
Муж толькі няўцямна міргае,
Нібыта спалохаўся грому:
— З ахвотай,
З ахвотай,
Але ж, дарагая,
Я з ёю...
Яшчэ не знаёмы.

## *Няўдача*

Бегла ранічкай лісіца:
Хочаш есці — ўмей шукаць.
«Чым бы, чым бы пажывіцца?
Эх, варону б напаткаць!
Можа, мне ўсміхнецца шчасце,
Хоць не тыя ўжо часы?
Можа, зноў сягоння ўдасца
На дурніцу
З'есці сыр?
А мо ўсё — дарэмны клопат:
Хто ж пашле мне гэткі дар?..»
Раптам чуе крылляў лопат,
Раптам чуе зверху:
— К-к-а-р-р!
Ліска ўпала ніц з разгону.
Зірк угору —
Так яно:
На суку сядзіць варона.
Сыру ж —
Блізка не відно.
Не было б лісе спакою,
Каб паверыла ў такое.
Хвост падцяўшы,
Хвост хвалёны,
Села, круціць галавой:
— Добры дзень, кума варона!
Дзе ж твой сыр,
Сняданак твой?

А старая, нос глюгаты
Сумна звесіўшы, глядзіць,
Як на ўзгорку вараняты
Дзеляць сыр —
Аж пух ляціць!
— Што скажу я —
лепш паслухай,
Ты спазнілася цяпер:
Дзеткі родныя, рыжуха,
Апярэдзілі цябе.

# ВЫБРЫКІ ПЕГАСА, ВЫБРАКІ ПАРНАСА

### *Коўзкая слава*

...Прысню, прачнуся
У ціхай скрусе:
У сэрцы толькі
Явар, бусел...
...Вішні, вішйі — белы цвет,
Ягадкі і косткі,—
Палюбіў шырокі свет,
Мне ж — лёд славы коўзкі.

А. Л о й к а

Дзе мой сад — мой белы цвет?
Уявіце самі:
Палюбіў я цэлы свет,
З яварам,
З буслямі.
Ды чаму ж, чаму ж тады
Сэрца ў ціхай скрусе?
Можа, славы, як бяды,
Я падчас баюся?
Хутка вішні абтрасуць
На мой шлях пялёсткі...
Што ж мне ягад не нясуць?
Ці ж наедак — косткі?!
Ехаў я без перашкод,
Зацугляўшы ліру,
Скуль жа славы коўзкі лёд?
Хто падсыпле жвіру?

### *Шпількі адзіноты*

Ці здалося з адзіноты,
Ці прымроілася ў сне,—
Праз глыбокія сумёты
Ты прыбегла да мяне.
Пранізалі снежны морак
Тваіх зрэнак светлячкі.
Ціхі шэпат.
Ціхі шорах.
Шпількі выпалі з рукі.
Пахнуць холадам радзімкі
І дрыжыш ты ўся сама...

В. Г а р д з е й

Я ў абдымках адзіноты
Цэлы тыдзень знемагаў,
Не хапала мне пяшчоты,
Па былым штодня ўздыхаў.
Дзе ты, першае спатканне,
Мройных золкаў цішыня?
Дзе ты, першае каханне,
Рук і вуснаў цеплыня?
Я здзічэў бы ад самоты,
Ды адиойчы (хоць і ў сне!)
Праз глыбокія сумёты
Ты прыбегла да мяне.
Я забыў, што снежны морак —
Здрады сполах трапяткі.
Ціхі шэпат.
Ціхі шорах.

Шпількі выпалі з рукі.
«Не ўкалюся?.. Жартаў мала!..» —
Я табе шапнуць хацеў.
Ты чамусьці ўся дрыжала,
Я таксама затрымцеў.
Ты пабегла ў ранак золкі,
Зноў застаўся я адзін.
Шпількі...
Не, твае прыколкі
Засталіся на ўспамін.
Іх, як скарб, цяпер хаваю,
З імі больш твайго цяпла,
Хоць трывожуся, бывае,—
Жонка б толькі не знайшла!

### ***Эх, танцы, танцы!..***

Аднаму не навучыўся —
Танцаваць.
Колькі раз аб тым прыйшлося шкадаваць.
Ці ўчую твае крокі за парогам?
Выстукваю іх сэрцам усю ноч...
К. К а м е й ш а

Тых дзён сцяжынкі ў памяці вышукваю
І чую —
Неўпапад абцасамі выстукваю...
Курыць, пісаць шчэ змалку налаўчыўся,
Ды аб адным жыццё ўсё шкадаваць:
Як маладзёнам быў,
Не навучыўся
Ні шэйкаваць, ні полькі танцаваць.
Было —
Дзяўчат праводзіў і падвозіў,
Калі ж на вечарынку зазіраў,—
Стаяў, вушак падпёршы, у парозе
Ці ўсе куткі з малечай аціраў.
І як магло са мной такое стацца?
Успомню —
Сэрца тахкае часцей:
О, колькіх не паспеў абняць на танцах!
О, колькіх не прыціснуў да грудзей!
Вам прызнаюся, можа, у дзівацтве,
Але душу хоць трошкі адвяду:
Каб зноў не памыліцца,
Бы ў юнацтве,
З дачкой на танцы ў лесапарк пайду!..
Тых дзён сцяжынкі ў памяці вышукваю
Караскаюся ўверх,
Злятаю з круч.
І чую крокі...
Сэрцам іх выстукваю:
Не сэрца маю —
Тэлеграфны ключ.

### ***Камень разладу***

Найшла каса на камень:
Я — слова,

ты ў адказ...
Дом дагары нагамі
Перавярнуўся ўраз.
У. С к а р ы н к і н

Ты — словам.
Я — рукамі:
І крык, і самасуд.
Найшла каса на камень?
Ці камень на касу?
Няўжо няма збліжэння?
Няўжо разлад, развод?
Зрабіў я ў задуменні
Чацвёрты разварот.
Разладу, нашай звадкі
Дом нават не стрываў:
Кульнуўся, як дзіцятка,
І ногі ўверх задраў!
Гляджу, дзіўлюся нема:
З чаго цяпер пачаць?
Адразу тры праблемы
Мне трэба вырашаць:
З сям'ёй уладзіць трохі —
Шкада дзяцей, сыноў;
Паставіць дом на ногі —
Хай домам стане зноў;
А трэцяя якая?
Ды тая ўсё, браткі,—
Здрабніць разладу камень
На рыфмы,
На радкі.

***Што лягчэй?***

Шмат дзяўчат прывабных ёсць на свеце
І адна другое прыгажэй.
Але я такую ўрэшце стрэціў,
Што за ўсіх мне стала даражэй...
Рукі моц бязмежную адчулі,
Што б ні ўзяў цяжкое— падніму.
І, здаецца, я б зямную кулю,
Як ядро спартыўнае, штурхнуў.
А. С т а в е р

Крочыў я маўкліва па бульвары —
Адпачыць ад вершаў захацеў.
А ў душы цвілі, як ружы, мары,
Сіні ранак
Звонка зіхацеў.
Разважаў я:
«Шмат дзяўчаг на свеце
І адна другое прыгажэй.
Эх, каб як харошанькую стрэціць,
Што б за ўсіх мне стала даражэй!»
Раптам бачу: лёгкаю паходкай,
Са спартыўнай сумкай у руцэ,
Мне насустрач цокае малодка —
Ямачка свіціцца на шчацэ.
Неяк стала млосна і няёмка,
Сорам у душы сваёй адчуў:
«Гэтая, напэўна, з трэніроўкі,
Я ж без мэты раніцу хаджу...»
Прыпыніўся — і паверыў шчыра:

Ад усмешкі ласкавай яе
Я адразу неяк значна вырас
І душой адразу пасталеў.
«Як жа пазнаёміцца мне з ёю?..»
Я павёў, як Мурамец, плячом:
— Можна мне у секцыю з табою?
Марыў стаць я гэта… штурхачом.
Рукі моц бязмежную адчулі,
Што ні дай цяжкое — падніму.
Мне здаецца: я б зямную кулю,
Як ядро спартыўнае, штурхнуў!
Так сказаў і сцяўся: «Не сарвацца б!
Біць ракорды — не смактаць сітро!»
Я маўчаў, карцела ж запытацца:
«Што лягчэй — ці куля, ці ядро?..»
А яна, бы думкі разгадала:
— Кінь, Алесю мілы, блазнаваць!
Я б табе спачатку пажадала
Не спяшацца, лепей рыфмаваць...
Закурыў я, сумны прэч пакрочыў,
Мой настрой, як ружа ў спёку, звяў.
Не сказала б гэткага мне ў вочы,—
Вершы ўраз
На штангу б размяняў!

***Спатканне з русалкай***

Трымцела на пяску маранка,
І валасы цяклі наўплаў.

На імені тваім, Марына,
Нібы на водмелі, стаяў.

М. Стрыгалёў

Па жыцці, бы ліст падсохлы, ветрам,
Шмат ганяла, кідала мяне.
І цяпер вось я — каля Ай-Петры,
У знакамітай спёкнай старане.
Мора пеніцца, бы ў цёплай стоме,
Чайкі, як буруны, над вадой.
Ёсць курсоўка,
На шашлык, «баржомі»,
А русалкі побач —
Ні адной.
Ды я чуў ад блукачоў бывалых:
Тут русалку стрэць —
Не ў навіну.
Дзе яна, што ўміг зачаравала б,
Закранула ціхую струну?
І аслуп, знямеў у хвілю тую:
Што за «рыбка» з хваляў устае,
Паказаўшы мне клубы крутыя
І пагоркі звабныя свае?
А русалка спаласнула ногі,—
Аж пабег баранчыкам бурун,—
Быццам не заўважыла нікога,
Быццам я
Не я быў, а — валун.
І пайшла, дзе пляж; быў болей людны.
Мо шукаць Нептуна з барадой?
Я ж стаяў — і кволы, і магутны —

Над журбой сваёю,
Над вадой.
Затрымцела на пяску маранка.
Адчуваю — зараз саграшу:
Я на імені тваім, русалка,
Пастаю...
Не, лепей — паляжу.
Крыўда пнецца.
На каго крыўдую?
На русалку? На свае гады?
Ат, да д'ябла!..
Лепей верш збудую —
Са жвірку і чысценькай вады.



***Змест***

Чарняўскі М.
Камар на матацыкле: Гумарэскі, жарты, пародыі.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 70 с., іл.

У гумарыстычных творах паэта высмейваюцца тыя, чые норавы і густы не адпавядаюць нормам і прынцыпам нашага жыцця, нашай маралі.

*Николай Николаевич*
***ЧЕРНЯВСКИЙ***
*КОМАР НА МОТОЦИКЛЕ*
***Юморески, шутки, пародии***
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке
Рэдактар Х. Д. Жычка
Мастак У. С. Пашчасцеў
Мастацкі рэдактар А. М. Малышева
Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч
Карэктар А. Т. Глушчанка
ІБ № 2438 Здадзена ў набор 27.05.85. Падп. да друку 11.10.85. АТ 12334. Фармат 70Х 907з?. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,63. Ум. фарб.-адб. 2,85. Ул. выд. арк. 2,63. Тыраж 4000 экз. Зак. 1500. Цана 30 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005. Мінск, Чырвоная, 23.